# Веснік НДА
Веснік NGO

2000 верасень

№9 (24)




БЮЛЕТЭНЬ ВІЦЕБСКАГА АДДЗЯЛЕННЯ ГА «ФОНД ІМЯ ЛЬВА САПЕГІ»

# Тэрмінова ў нумар!

**Раніцай 5 верасня у офіс Аршанскай Рады Таварыства беларускай мовы, размешчаны ў службовым памяшканні, завітала камісія ў складзе работнікаў жыллёва-камунальнай гаспадаркі, санэпідэмстанцыі, архітэктуры і гараддзела міліцыі (!!!). Мэта візіту – абследваць офіс арганізацыі.**

**У выніку працяглай праверкі чыноўнікі знайшлі павуціну за шафай, пыл на падаконніку, а пры пільным абследванні ўнітаза былі выяўленыя іржавыя пацёкі.**

**Вынікам праверкі стаў акт аб тым, што ў памяшканні не быў зроблены касметычны рамонт, што цягне за сабой растаржэнне Дагавора арэнды офіса.**

**На гэтыя дзеянні мясцовыя улады пайшлі пасля таго, як Рада Таварыства беларускай мовы дала згоду на размяшчэнне ў сваім офісе юрыдычнага адрасу газеты "ДЭМАРШ" – адзінай незалежнай на сённяшні дзень газеты ў Оршы.**

**Офіс ТБМ з'яўляецца адзіным у Оршы службовым памяшканнем, якое афіцыйна здадзена ў арэнду. Усе астанія арганізацыі месцяцца на прыватных кватэрах.**

**Мы лічым дзеянні Аршанскіх гарадскіх уладаў спробай расправы з незалежнай прэсай і дэмакратычнымі арганізацыямі.**

**Аршанская гарадская Рада ТБМ,**
**Цэнтр падтрымкі грамадскіх ініцыятываў «Крывіч»**

## З Наваполацка

У Наваполацку пачынаюць набіраць хуткасць падзеі, зьвязаныя з так званымі выбарамі ў прэзідэнцкую палатку. Дзе ні дзе на прадпрыемствах зьявіліся агіткі, выкананыя ў характэрным чырвона зялёным аздабленьні, з абвесткай аб маючых адбыцца парлямацкіх выбарах. А ў гарадскіх "вертыкальных" кабінетах ужо распрацаваны ўласны сцэнар разьвіцьця падзеяў, з галоўнай мэтай прыцягнуць выбаршчыкаў у вызначаны час на ўчасткі для галасаваньня. Яно і не дзіва. Наўрад ці ў гэтым выбарчым фарсе будзе заўважана незвычайная актыўнасьць гараджанаў. Папярэднія выбары ў мясцовы Савет засьведчылі, што ўдзельнічаць у парожніх мерапрыемствах жадаючых знаходзіцца ўсё менш. Тады гарадскі Савет так і не абралі, бо дзякуючы працы, праведзенай грамадскімі назіральнікамі, улады не асьмеліліся пайсьці на масавыя прыпіскі дзеля дасягненьня кворуму. Натуральна, пасьля такой правальнай арганізацыйнай працы, выканкамаўцы мелі шмат непрыемнасьцяў ад найвышэйшага кіраўніцтва.

І вось зараз, у сезон чарговых псеўдавыбараў, наваполацкія вертыкальшчыкі мусяць неяк рэабілітавацца - інакш можна будзе лічыць, што іх кар'ера не ўдалася. На макаўцы ўладнай вертыкалі больш такога не даруюць.

Доўга думалі, ці не выканкамаўскія служкі, але вырашылі, што найлепшым варыянтам будзе, калі кандыдатам ў палатныя дэпутаты стане былы генеральны дырэктар ВА "Полімір" Леў Нававажылаў. Прычым, насамрэч, чыноўні-

*(Працяг на 4-й стар.)*

## З Гарадка

Пачата праца па стварэнню грамадскага аб'яднання "За здаровы лад жыцця", асноўнай мэтай якога стала б аб'яднанне намаганняў грамадзян па фармаванню ў грамадстве культа здаровага вобраза жыцця, а таксама падтрымка тых грамадзян, якія пазбавіліся шкодных звычак. Ініцыятарам аб'яднання выступіў Леанід Кузняцоў, медыцынскі псіхолаг, які займаецца лячэннем алкагалізму. Спадаром Кузняцовым выпушчаны першы нумар газеты "За здаровы лад жыцця". Кантактны тэлефон сп. Кузняцова:8-239-21704 ў Гарадку.

Падрыхтаваны жнівеньскі нумар асветніцкай культурна-грамадскай газеты Лёзненшчыны "Спадчына". У нумары прадстаўлены матэрыялы Усебеларускага з'езду за незалежнасць, палемічны артыкул па выкладанню гісторыю ў школе, паэтычная творчасць Міхася Космыкава, а таксама звесткі пра мястэчка Высачаны і іншыя матэрыялы.

**Выпушчаны сёмы нумар газеты "Працоўная Грамада", які прысвечаны галоўнай падзеі лета 2000 года – Усебеларускаму з'езду "За незалежнасць". У нумары прадстаўлены прамовы сустаршынь з'езда: Генадзя Бураўкіна, Радзіма Гарэцкага, Рыгора Барадуліна, а таксама іншыя яркія прамовы – Ніла Гілевіча, Генадзя Грушавога. Чытачы маюць магчымасць пазнаёміцца з інтэрв'ю дэлегата з'езда Л.П. Казака ад Гарадоччыны, які ўдзельнічаў у Саюзе беларускіх патрыётаў і прайшоў сталінскія канцлагеры.**

**У рубрыцы "Куток выбаршчыка" даюцца адказы на пытанні: "Хто імкнецца абрацца ў Палату Прадстаўнікоў?", якая існуе крымінальная адказнасць за парушэнні Выбарчага кодэкса".**

*(Працяг на 4-й стар.)*

# З Оршы

Днямі Віцебскі абласны суд разгледзеў касацыйную скаргу газеты "Віцебскі рабочы" на рашэнне Аршанскага райсуда. Нагадаем чытачам, што у вышэйназваным выданні некалькімі месяцамі раней былі змешчаны матэрыялы, што абражалі гонар і годнасць Старшыні Аршанскага аддзялення Беларускага Хельсінскага камітэта Васіля Бераснева. Васіль Ціханавіч вырашыў не маўчаць і падаў у суд на газету і аўтара артыкула – старшыню Аршанскага райсавета ветэранаў Жолудзева, які і раней вызначаўся сваімі нападкамі на актывістаў дэмакратычнага руху Аршаншчыны. На судзе Жолудзеў і прадстаўнік "Віцебскага рабочага" карэспандэнт Каралёў усімі сіламі імкнуліся даказаць, што чорнае гэта белае, а белае гэта чорнае. Аднак таварышам камуністам не пашанціла. Нягледзячы на ўвесь пафас прамоваў, Аршанскі раённы, а следам і Віцебскі абласны суды не змаглі іх ацаніць. У выніку "Віцебскі рабочы" і Жолудзеў абавязаны прынесці прабачэнні Берасневу, а таксама выплаціць пэўныя сумы па кампенсацыі маральнага ўрону.

**А лічбы, аказваецца, дутыя!**

Гэта высветлілася пасля абнародвання вынікаў работы Камітэта дзяржкантроля па Віцебскай вобласці за 6 месяцаў сёлета. Згодна статыстыкі аршанскага гарвыканкама, зваротаў грамадзян са скаргамі у органы дзяржулады стала значна менш. А вось паводле дадзеных абласнога Камітэту дзяржкантроля наглядна адзначаецца павелічэнне паступлення на 4% пісьмовых скаргаў якраз з Оршы. Калі верыць статыстыцы аршанскага гарвыканкама, скаргаў на ВА ЖКГ Оршы паменшала на 33%. А вось паводле дадзеных абласнога дзяржкантролю ўсё якраз наадварот – павелічэнне скаргаў аршанцаў на работу ВА ЖКГ з 22% у першым паўгоддзі летась да 41% сёлета.

**Чыноўнікі шчыльным касяком зноў рушылі ў дэпутаты**

Завяршаецца вылучэнне кандыдатаў і ўсе звязаныя з гэтым фармальнасці на запланаваныя на кастрычнік выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.

На канец жніўня з вылучэннем кандыдатаў сітуацыя выглядае наступным чынам. Па Аршанскай гарадской выбарчай акрузе №26 вылучана ажно 12 кандыдатаў у дэпутаты. Сярод іх 4 педагога, 3 чыноўнікі-адміністратары, 1 беспрацоўны (зноў жа з вялікім наменклатурна-чынавенскім стажам), 1 прадпрымальнік, 1 чалец Саюза журналістаў Беларусі, 1 медык і 1 высокі чыноўнік спартовага кшталту – старшыня Нацыянальнага алімпійскага камітэту, былы рэкардсмен-канькабежац Ігар Жалязоўскі. А вось па Аршанскай-Дняпроўскай выбарчай акрузе №27 вылучана пакуль толькі 8 кандыдатаў. Тут расклад такі: 5 чыноўнікаў-адміністратараў, 1 педагог, 1 інжынерна-тэхнічны работнік і 1 прадпрымальнік. Па Талачынскай выбарчай акрузе №31, да каторай чамусці належыць шэраг населеных пунктаў на захадзе Аршаншчыны, вылучаны пакуль толькі 1 кандыдат – дэпутат цяперашняга Нацсходу Азарчанкаў, у мінулым аграпрамысловы функцыянер.

Зразумела, асобая ўвага "вертыкалі" найперш звернута на вылучэнцаў ад палітычных партый, якіх так востра не хапае для прыдання легітымнасці будучаму парламенту. У гэтым плане мала радасці, хаця сёе-тое ёсць. Па Аршанскай №26 ад Партыі камуністаў Беларускай вылучаны інжынер-тэхнолаг Мікалай Дзямідаў, а ад Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасці (ёсць і такая) вылучаны той самы канькабежац Ігар Жалязоўскі. Астатнія палітычныя партыі й рухі Аршаншчыны, згодна з рашэннем III Кангрэса дэмакратычных сіл Беларусі, байкатуюць гэтае мерапрыемства, называючы яго палітычным фарсам пад назвай "Выбары ў Палату прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі".

**Семінарыць не толькі апазіцыя**

Палітычна прасунутыя дзяржаўныя СМІ часта папракаюць апазіцыйныя структуры бясконцымі семінарамі на забугорныя грошы. Аднак і "вертыкальныя" ведамствы апошнім часам сталі ахвочымі да розных семінараў. Толькі за апошні месяц на Аршаншчыне прайшлі 2 буйныя семінары. 3 жніўня ў эксперыментальнай базе "Вусце" прайшоў абласны семінар для інспектараў па якасці нарыхтовак сельгаспрадукцыі з выездам у іншыя гаспадаркі і на камбінат хлебапрадуктаў.

А напярэдадні на базе "Аршанскай газеты" быў праведзены дужа прадстаўнічы рэгіянальны семінар рэдактараў раённых, гарадскіх і аб'яднаных газет. Праводзіў семінар начальнік упраўлення па друку аблвыканкама Іван Сухамера. У прыемнай, нязмушанай абстаноўцы гаварылі амаль пра ўсё – ад сацыяльна-эканамічнага развіцця Оршы і ролі друку ў гэтым працэсе, і аж да выканання ўказу Лукашэнкі "Аб рэагаванні пасадавых асоб на крытычныя выступленні ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі". Семінар прайшоў на высокім ідэйна-палітычным узроўні, у цёплай, сяброўскай атмасферы.

26 жніўня яшчэ адзін, на гэты раз семінар дзяржаўнага ўзроўню, якім кіраваў аж сам віцэ-прэм'ер Папоў пры ўдзеле яго цёзкі, міністра сельскай гаспадаркі. Тэма семінару – праблемы льнаводства. На семінары віцэ-прэм'ерам ва ўльтыматыўным парадку была пастаўлена задача – выцерабіць лён ва ўсіх гаспадарках у 10-дзённы тэрмін, і скончыць з ім да 5 верасня. А пасля яшчэ і абмалаціць уласнымі сіламі. Цікава, у саўгасе "Гарадзец" таксама ў час дырэктарства там ППРБ спраўляліся з ільном у такія тэрміны і такімі метадамі? У час разбору гатоўнасці да такіх тэрмінаў ільнаводаў з Магілёўшчыны і мадэлявання сітуацыі па канкрэтных дадзеных і лічбах тут жа высветлілася, што церабіць яны будуць увесь верасень. У лепшым выпадку. На Аршаншчыне льноклін складае 3500 га, выцераблена на трэцюю дэкаду жніўня менш 8-й часткі патрэбнага. Так што семінарыць куды прасцей.

**Не чакалі**

Ураган, які абрынуўся на Оршу і раён 22 жніўня, стаў поўнай нечаканасцю для ўсіх. Паводле прыблізных вызначэнняў, страты ад стыхіі ацэньваюцца ў лічбу каля 100 мільёнаў рублёў, ёсць нават адна ахвяра.

Падобна на тое, што для ўлады здарэнне стала поўнай нечаканасцю. Ва ўсялякім разе дзеянні створанай камісіі па ліквідацыі наступстваў паказалі адсутнасць грашовых рэзерваў на падобныя выпадкі ў гарадскім бюджэце. На фінансаванне брыгад, што расчышчалі горад ад завалаў дрэў і абарваных правадоў ліній электраперадач, у горада грошай не знайшлося, усё звалілі на плечы прадпрыемстваў, каторыя ў асноўным і фінансавалі іхную работу. Вось тут бы і паказаў сваю жвавасць злосны пілоўшчык дрэў МП "Орион"…

Большасць пацярпелых жыхароў Оршы таксама дарэмна шукалі рады ў гарвыканкаме; адказ для іх быў адзін – грошай на рамонт дахаў у выканкаме няма. І пасылалі іх… у "Белдзяржстрах". Для апошняга, канешне, лепшай рэкламы для сваіх паслуг цяжка прыдумаць, але многія аршанцы усё ж не карысталіся прывабнымі паслугамі страхавання, а таму асталіся з рамонтам раскрытых дахаў сам на сам. Па самых сціплых падліках на рамонт жылога сектару Оршы спатрэбілася 10 вагонаў шыферу і 3 вагоны рубероіду.

# З Верхнядзвінска

**ДАПАМОГА**

Дабрачынны фонд з Галандыі "Кіндэрхульп" і Верхнядзвінскі рэгіянальны інфармацыйна-рэсурсны цэнтр грамадскіх арганізацый сталі ініцыятарамі паездкі 30 выхаванцаў Асвей-скай і Верхнядзвінскай школ-інтэрнатаў на аздараўленне ў Галандыю. Паездка адбудзецца ў верасні, а на мінулым тыдні прадстаўнікі Фонду з Нідэрландаў прыязджалі ў раён, каб на месцы азнаёміцца з тым, як ідзе падрыхтоўка дзяцей да паездкі.

**АДУКАЦЫЯ**

Дабрачынныя фонды дазваляюць нашым грамадзянам набываць сучасныя навыкі і прафесіі. Адбыўся першы тыднёвы тур семінараў для пачынаючых маладых журналістаў у Віцебску, а ў Полацку працягваюцца па выхадных днях заняткі на кампутарах, авалодаць якімі пажадалі пяцёра верхнядзвінцаў.

**ВЫБАРЫ**

У райвыканкаме адбылася нарада-семінар з арганізатарамі выбарчай кампаніі. І хаця выбары пройдуць, відаць, як "у старыя добрыя часы", гэта значыць, без выбара, але ўлады імкнуцца правесці іх "па еўрапейскім стандарце", каб і камар носу не падтачыў. Між тым ужо зараз відаць, дзе пакінута шырокае поле для фальсіфікацый. Так у бюлетэнях выбаршчыкі могуць паставіць любы знак у клетку насупраць прозвішча кандыдата, за якога яны галасуюць. Дастаткова члену камісіі чырк-нуць "галачку" у пустым (несапраўдным) бюлетэні – і патрэбны ўладзе кандыдат атрымае лішні голас. Зробіш лішнюю рысачку – непажадны кандыдат не пройдзе.

Для садзейнічання выбарчым камісіям у арганізацыі перадвыбарчых мерапрыемстваў рашэннем раённага выканаўчага камітэта ўтворана каардынацыйна-кансультацыйная група, у якою ўвайшлі прадстаўнікі выканаўчай улады, а таксама адказныя работнікі Камітэта Дзяржбяспекі, органаў унутраных спраў, сувязі, спажывецкай кааперацыі.

Падчас выбараў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу РБ на тэрыторыі Верхнядзвінскага раёна будуць адчынены для галасавання 37 выбарчых участкаў. Зараз завершана вылучэнне прадстаўнікоў у склад гэтых камісій. Партыйныя структуры, у прыватнасці, Партыя камуністаў Беларуская (калякінцы) вылучылі шляхам збору подпісаў трох кандыдатаў у склад участковых выбарчых камісій. Большая ж частка членаў камісій, як гэта было і на папярэдніх выбарах у мясцовыя Саветы, вылучана праз працоўныя калектывы.

**ПАДЗЕЯ**

Галоўнай падзеяй тыдня з'явіўся фэст у Расіцкім касцёле. Яго "рухавіком" стаў ксёндз В.Пялінак. Нашы ўлады зрабілі ўсё неабходнае, каб забяспечыць парадак і зручнасці для вернікаў. Пешыя пілігрымкі ў Расіцу здзейснілі палачане, мёрцы, баркаўчане і іншыя групы.

**ПАХОД**

Зорны паход да Расіцкай святыні здзейснілі турысты-краязнаўцы Боркавіцкай і Сенькаўскай школ. Пасля фэсту сумесная вандроўка старых сяброў доўжылася яшчэ тры дні.

**ПРАВЕРКА**

У школах раёна прайшла традыцыйная праверка на падрыхтаванасць да навучальнага года. Як сведчаць кіраўнікі школ, патрабаванні камісій перавышалі магчымасці навучальных устаноў, бо на рамонт памяшканняў і набыццё абсталявання большасць з іх на атрымалі з бюджэту ні капейкі грошай.

**ДАПАМОГА**

Верхнядзвінск наведалі прадстаўнікі праграмы гуманітарнай дапамогі "Каунтэрпарт", адзінага амерыканскага фонду на Беларусі, у асобах дырэктара праграмы У.В.Хадорчанкі і дырэктара праекта па гуманітарнай дапамозе з ЗША і Еўропы В.С. Сярэбранага. У Верхнядзвінску мяркуецца стварэнне базы захоўвання гуманітарных грузаў.

**АДУКАЦЫЯ**

На пачатку новага навучальнага года вучні некалькіх класаў Верхнядзвінскай вячэрняй школы развіталіся з перспектывай атрымаць сярэднюю адукацыю. Магчыма, гэта звязана з карэктывамі, якія штогод уносяцца ў Канцэпцыю развіцця агульнаадукацыйнай школы ў нашай краіне. На гэты раз змены закранулі вячэрнюю форму набыцця сярэдняй адукацыі. Хутчэй за ўсё высокае кіраўніцтва вырашыла ад яе проста адмовіцца. Былыя навучэнцы пастаўлены перад праблемай, дзе ім далей вучыцца, каб набыць атэстат аб сярэдняй адукацыі.

**СЕМІНАРЫ**

На семінар у Віцебскі інфармацыйна-адукацыйны цэнтр "Юнацтва" накіраваліся школьнікі-краязнаўцы Боркавіцкай СШ на чале з дырэктарам школы В.Ізосімавай і сябры гуртка саломапляцення з Бігосаўскай школы разам з настаўніцай Г.Тушкінай.

# Ад ЦМІ «Контур»

У Віцебску выйшаў сыгнальны нумар інфармацыйна-аналітычнай гарадзкой беларускамоўнай газэты "Віцебская трыбуна". Яе заснавальнікам зьяўляецца грамадзкае аб'яднаньне "Цэнтар моладзевых ініцыятываў "Контур". Газэта будзе мець моладзевую накіраванасьць, адной зь яе асноўных мэтаў зьяўляецца ўсебаковае і аб'ектыўнае асвятленьня жыцьця горада і вобласьці. У першым нумары зьмешчана гутарка са старшынёй Віцебскай гарадзкой Рады БНФ "Адраджэньне" В. Шалухіным, інфармацыя пра Ўсебеларускі Зьезд, гарадзкая хроніка, роздумы лідэра "Маладога Фронту" Паўла Севярынца і многае іншае. Рэдактарам газэты стаў прафесійны журналіст, сябра ЦМІ "Контур" Сяржук Серабро. Рэдакцыяй ужо падрыхтаваны дакументы на рэгістрацыю газэты. Плянуецца, што з новага году газэта зьявіцца ў шапіках "Саюздруку". Электронную версію газэты ў PDF фармаце можна атрымаць па e-mail: kontur@vitebsk.net

ПІКЕТ У ВОРШЫ

31-га верасьня ў Воршы Кансэрватыўна-хрысьціянская Партыя БНФ правяла пікет супраць аб'яднаньня Беларусі з Расеяй. Мерапрыемства праходзіла ў цэнтры горада. Пікетоўцы трымалі бел-чырвона-белыя сьцягі і лёзунгі: «Не аддадзім Беларусь Расеі», «Лукашэнку ў адстаўку!».

Распаўсюджваліся звароты З. Пазьняка. Акрамя кахэпістаў да акцыі далучылі супрацоўнікі былой газэты «Куцейна» і сябры свабоднага прафсаюзу. У пікеце прыняло ўдзел усяго 15 чалавек. Затое міліцыянтаў, якія ахоўвалі пікетоўцаў, было ў два разы болей.

ПІКЕТ У ВІЦЕБСКУ

Віцебскае аддзяленьне Сацыял-Дэмакратычнай партыі «Народная Грамада» ў пятніцу 25-га жніўня арганізавала пікет у цэнтры гораду. Пікет меў сацыяльную накіраванасьць і праходзіў пад лёзунгам «Партыя сацыял-дэмакратаў — супраць абнішчаньня народу». Удзел у пікеце прынялі таксама сябры БНФ «Адраджэньне», прадпрымальнікі і шэраг актывістаў віцебскіх няўрадавых арганізацыяў.

Пікетоўцы трымалі плакаты з даволі трапным зьместам: «Мне ня трэба такі «бацька» лепей буду сіратой», «Ураджай зьбіраем, але ў кішэнях нічога ня маем», «Саша! Хоккеем сыт не будеш». Акцыя сабрала каля 30-ці ўдзельнікаў.

## З Наваполацка

(*Працяг. Пачатак на 1-й стар.*)

каў не цікавіць ці стане спадар Наважылаў дэпутатам. Ім галоўнае, каб на першы тур галасаваньня прыйшло хаця б 50 адсоткаў і адзін выбаршчык ад агульнай колькасьці. Тады выбары будуць прызнаныя адбыўшыміся, а гаспадары выканкамаўскіх кабінетаў змогуць уздыхнуць з пэўнай палёгкай. Можна будзе лічыць, што ўсё залежнае ад іх выканана.

Чаму ж вырашана зрабіць асноўную стаўку на ўжо досыць немаладога чалавека? Рэч у тым, што ў горадзе, яшчэ і зараз, досыць добра ведаюць былога кіраўніка аднаго з нафтахімічных гігантаў, дарма, што ён ужо некалькі год не пры пасадзе. Гэта сапраўды паважаны чалавек, які заўсёды меў аўтарытэт, як сярод рабацяг, так і кіруючых кадраў "Паліміра". Яго аўтарытэт не абмяжоўваўся толькі вытворчасьцю. Жаданым госьцем ён быў шмат у якіх гарадскіх установах, ды й на самым высокім дзяржаўным узроўні са словам Льва Наважылава заўсёды лічыліся. Ён неаднаразова абіраўся на разнастайныя высокія форумы.

Вось і вырашылі мудрыя вертыкальшчкі прасьпекуляваць на аўтарытэце вядомага чалавека, бо ў саміх іх такой папулярнасьці няма, а ратаваць выбары ад правалу трэба. З выканкаму ўжо дадзены каштоўныя ўказаньні на наваполацкія хімічныя заводы (ды не толькі на іх) па рэалізацыі перадвыбарных планаў. Адпаведна пайшлі каманды па ўсіх структурных падразьдзелах заводаў каб вылучэньне прайшло гладка і прыгожа.

Ну а пакуль ідзе працэдура вылучэньня распрацаваны і план наступнага этапа выбараў. Гарадскія ўлады зьбіраюцца ўсю восень (да даты выбараў) ладзіць разнастайныя ярмаркі з продажам танных сельгаспрадуктаў. Такім чынам будуць дагаджаць электарату, каб ён расчуліўся ад клопату ўладаў і масава ўзяў удзел у прапанаваным фарсе.

**Першага верасня каля Полацкага Дзяржаўнага універсітэта былі вывешаны два бел-чырвона-белыя сцягі. Яны віселі каля новага і старага карпусоў, на кабелі, паміж слупамі. Адміністрацыя ўніверсітэта прыняла даволі хуткія захады для зьняцьця "нячэсных" сцягоў. Той, які быў каля старага корпуса быў зняты каля 8[40]. Прычым пры зняцьці сцяга адміністрацыя відаць мела пэўныя складанасьці, бо некаторыя часткі канструкцыі, якая трымала сьцяг на дроце да гэтага часу вісіць на тым самым месцы. Для зняцьця сцяга каля новага корпуса ўніверсітэта, прыйшлося падганяць кран. І, толькі ўзабраўшыся на яго, ўдалося зняць крамольную сымболіку. Адбылося гэта ў 10[20]. Прычым вызклікае цікаўнасць асоба чалавека, які здымаў сцяг, бо, як кажуць сьведкі, даўно не было бачна такой нянавісьці, зь якой ён рабіў гэта. Трэба яшчэ заўважыць, што бел-чырвона-белыя сцягі з'яўляюцца на першае верасня ўжо на працягу чатырох год. Гэтая акалічнасць ставіць пад пытанне сьцвярджэнне аб падтрымцы моладдзю цяперашняй афіцыёзнай сымболікі рэжыму.**

4 верасьня ў Наваполацку адбыўся пікет у падтрымку незалежнасьці Беларусі, арганізаваны мясцовай філіяй Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ. Асноўнай мэтай пікету быў збор подпісаў у падтрымку незалежнасьці Беларусі. На пікеце распаўсюджваліся незалежныя выданьні незалежніцкага зьместу. Па словах арганізатараў адчуваюцца пэўныя зьмены ў настроях грамадзянаў, што праходзілі пабач з пікетоўцамі. Хранічных інтэгратараў становіцца меней, людзі ў асноўным з ахвотай разьбіраюць літаратуру. Гэта, відаць, сьведчыць аб пачаўшыхся зьменах, хаця, безумоўна, яшчэ кволых, у сьвядомасьці грамадзянаў Беларусі. Чытаць "савецкую Б" і глядзець так званы "першы нацыянальны канал" проста абрыдла.

## «Грань» пра «Сёмую грань»

"Сёмая грань" нарэшце выдала сваю газэту пад назвай "Грань". Першы нумар яе прысьвечаны прэзентацыйнаму прагляду дзьвюх партнёрскіх клюбаў: В.С.К. "Мядзьведзь" і Аўтаклюбу беларускіх аматараў, сьвяткаваньню купальля пад Полацкам і пад Віцебскам, сустрэчам з паэтамі, пісьменьнікамі і навукоўцамі Вінцэсем Мудровым, Віктарам Шалкевічам, Лявонам Баршчэўскім, Віктарам Шніпам і Людмілай Рублеўскай.

Рэдакцыя газэты просіць адрозьніваць гэтае агульнамоладзевае выданьне ад элітнаінтэлектуальнага часопіса "Сёмая грань".

Дызайнам і вёрсткай газэты займаліся дзядзькі з цэнтру "А&А", інтэрнэтам яе забясьпечыла Беларуская асацыяцыя журналістаў, надрукаваць жа нумар дапамаглі сябры з наваполацкай арганізацыі "Усяслаў Чарадзей".

## З Гарадка

(*Працяг. Пачатак на 1-й стар.*)

Выдадзены чарговы нумар культурна-грамадскай газеты Гарадоччыны "Гасцінец". У нумары прапагандуюцца матэрыялы Усебеларускага з'езда "За Незалежнасць", прадстаўлена паэтычная творчасць вучняў Езярышчанскай СШ ( настаўніца роднага слова – Таццяна Маранава). Для чытачоў будзе цікавай прэзентацыя вершаў Ларысы Геніюш з апошняй выдадзенай кнігі "Ластаўка" з нагоды 90-годдзя з дня нараджэння славутай паэтэсы.

**Адбылося чарговае паседжанне Каардынацыйнай Рады па назіранню за выбарамі. Сябры Рады абмеркавалі вынікі ўтварэння Шумілінскай акружной выбарчай камісіі №32 і адзначылі яе поўную залежнасць ад сістэмы выканаўчай улады, а таксама адмову ўключэння у яе склад незалежнага прадстаўніка Сяргея Аўчыннікава, які быў вылучаны шляхам збору подпісаў.**

**Прааналізавана сістэма утварэння выбарчых участкаў на тэрыторыі Гарадоцкага раёна. Сябры Рады адзначылі, што утвораны Верамеяўскі выбарчы участак (Цэнтр у калгасе імя Мічурына), дзе ён адсутнічаў на мясцовых выбарах, што прывяло да выбараў дэпутата райсавета праз вынасныя скрынкі пры масавым парушэнні тайны галасавання. Дадзены факт прайшоў праз маніторынг БХК і меў грамадскі рэзананс. Але і на кастрычніцкім галасаванні ўжо закладзена массавае парушэнне тайны галасавання, бо некалькі ўчасткаў аб'ядноўваюць па дзве гаспадаркі. Дарэчы, неабходна прааналізаваць гэту сітуацыю і ў іншых рэгіёнах.**

Няўдачай завяршыліся перамовы са старшынёй Гарадоцкага РК прафсаюза работнікаў адукацыі аб уваходжанні РК ў Каардынацыйную Раду па назіранню за выбарамі. Законнае права прафсаюзаў удзельнічаць у выбарчым працэсе было спынена райвыканкамаўскімі чыноўнікамі, якія параілі старшыні падумаць пра работу ў сістэме адукацыі, а не развіццё прававой культуры педагогаў і лепш усведамляць за што ёй плацяць грошы. Вось гэта і ёсць адзін з адміністратыўных рычагоў для падаўлення выбарчага права грамадзян.

Рэдакцыйная калегія: Б. Алінін, Х.С. Жэляпаў
Камп'ютэрны дызайн і вёрстка: Б. Алінін
Адрас рэдакцыі: 210015 Віцебск, пр-т Чарняхоўскага, 12-17, тэл/факс: (0212) 22-49-25
Распаўсюджваецца бясплатна
Выдавец: Віцебскае аддзяленне ГА «Фонд імя Л. Сапегі»
Наклад 160 паасобнікаў
Для унутранага карыстання